


# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

17 чэрвеня 2016 года №25 **(1103)**

## Польшча хоча падзяліцца досведам, як зрабіць працу ў вёсцы сучаснай

старонка 2

## У Шылавічах скардзяцца на пахі ад палёў фільтрацыі

старонка 3

## У Смаргонскім раёне мужчына з рэўнасці забіў траіх чалавек

## У Маладзечне 17-гадовая дзяўчына, пасварыўшыся з сяброўкамі, скокнула з балкона

старонка 4

# 28-гадоваму маладзечанцу Іхару Цімошку патрэбная дапамога

старонка 5

Фота забяспечанае Жаннай ЦІМОШКАЙ.

## Лукашэнка прызначыў старшынёй Валожынскага райвыканкама Мікалая Астрэйку

**ВАЛОЖЫН**

Пра гэта стала вядома 13 чэрвеня, калі **Аляксандр Лукашэнка** заявіў аб сваім рашэнні наконт кадравых прызначэнняў сярод кіраўнікоў мясцовых і распараджальных органаў.

Кіраўнік краіны падкрэсліў, што прызначаныя старшыні раённых выканкамаў уступаюць у свае пасады ў складаны час, перадае БелТА.

Ён паведаміў, што новым кіраўнікам найперш давядзецца шмат займацца пытаннямі рэальнай гаспадаркі, рэальнага сектара эканомікі, канкрэтнымі праблемамі ў жыцці людзей.

**Ён параіў ад першага дня пачынаць працаваць жорстка і прынцыпова.**

Сярод іншых кіраўнікоў ён прызначыў **Мікалая Астрэйку** старшынёй Валожынскага райвыканкама.

Паводле БелТА.

## Вілейскі праект адзначылі на конкурсе Social Weekend

**ВІЛЕЙКА**

Вілейскі праект сацыяльнай арт-лабараторыі "Добрыя рэчы", пра які расказвала "РГ", 4 чэрвеня ўдзельнічаў у фінале сёмага конкурсу сацыяльных праектаў Social Weekend.

Стаў ён пераможцам у адной з намінацый – Міхаіла Чупрынскага з Мінскага хакерспэйса.

– Міхаіл абяцаў праекту інфармацыйную, кансультацыйную падтрымку. І, калі атрымаецца, садзейнічанне пры ўдзеле ў замежных кірмашах, – паведаміла адна з аўтараў праекта **Святлана Паўлава**.

**Гран-пры конкурсу заваявала Майстэрня добрай справы Autism Inside Out.**

Прыз глядацкіх сімпатый – праект "Сцежкамі Міколы Тарасюка-2016".

Аддзел інфармацыі.

# Польшча хоча падзяліцца досведам, як зрабіць працу ў вёсцы сучаснай

**Ад 7 да 11 чэрвеня ў Мінску праходзіла 26-я Міжнародная спецыялізаваная выстава "Белагра". У ёй прынялі ўдзел больш за 500 кампаній аграпрамысловага накірунку з 23 краін свету, сярод іх Расія, Польшча, Літва, Латвія, Украіна і іншыя.**



Фота mysl.ru

Новае заўсёды выклікае цікавасць у пакупнікоў. З іншага боку – гэта штуршок прадпрыемствам рабіць прадукцыю лепшай, каб задаволіць патрабаванні пакупніка.

Удзельнікі выставы маглі пазнаёміцца з сучаснымі накірункамі ў галіне раслінаводства, жывёла- і птушкагадоўлі, тэхналогіямі перапрацоўкі, упакоўкі і захоўвання прадукцыі, разнастайнасцю сельскагаспадарчай тэхнікі.

У рамках выставы асобныя кампаніі арганізоўвалі прэзентацыі. 8 чэрвеня прайшла прэс-канферэнцыя праекта "Густы Еўропы – якасць і традыцыя".

Праект накіраваны на прасоўванне прадукцыі харчовай прамысловасці з краін Еўрапейскага саюза. Ён будзе рэалізоўвацца на працягу трох гадоў – 2015-2018. Прэзентавалі яго прадстаўнікі польскіх кампаній мясных і кілбасных вырабаў, вытворцы садавіны і гародніны.

Асноўная мэта польскіх кампаній – доўгатэрміновае супрацоўніцтва з Беларуссю па рэалізацыі разнастайнай прадукцыі, абмен досведам у тэхнічным плане. Сярод прадукцыі, якую плануюць рэалізоўваць: шматлікія сарты яблыкаў, груш, сліў, чарнаплодная рабіна, таматы, цыбуля, буракі, морква. А таксама сокі і мясныя вырабы.

### Польшча хоча падзяліцца досведам, як зрабіць працу ў вёсцы сучаснай

Прадстаўнікі польскіх кампаній адзначылі, што іх вёскі нашмат змяніліся за апошні час, павялічыўся прафесіяналізм гаспадароў, у гаспадарках выкарыстоўваецца сучасная тэхніка. Гэтыя складнікі і зрабілі вытворчасць сучаснай, а прадукцыю – высакаякаснай. Таму Польшча хоча падзяліцца сваімі дасягненнямі з Беларуссю, каб спрыяць далейшаму развіццю ў галінах мясаперапрацоўкі і садоўніцтва. У перспектыве гэта можа развіцца ў сумесныя міжнародныя прадпрыемствы, выгадныя для абедзвюх краін.

Каб упэўніваць не толькі аргументамі і лічбамі ў якасці прадукцыі, арганізатары прапанавалі ўзяць яе на зуб. Былі стравы з мяса: кілбасы, выразкі, вяндліна; а таксама садавіна, сярод якой гонар і неафіцыйны сімвал Польшчы – яблык.

Смачна – ацаніла польскія мяса і кілбасы і карэспандэнтка "РГ".

### Натуральная, таму і смачная

Пакуль удзельнікі каштавалі разнастайныя стравы і абменьваліся меркаваннямі з гэты конт, прадстаўнікі мясной прадукцыі з гонарам адзначалі: натуральная, таму і смачная.

Кіраўнік польскага саюза жывёлаводаў і вытворцаў мясной буйной рагатай скаціны **Багуслаў Рогусь** адзначае ў дачыненні да ялавічыны, што "дзякуючы сістэме вырошчвання жывёлы, асноўны рацыён якой складаецца з натуральных кармоў і харчавання на пашы, мы атрымліваем высакаякасны і бяспечны харчовы прадукт".

### "Новая прадукцыя заўсёды цікавіць пакупнікоў"

Маркетолаг мясаперапрацоўчай кампаніі "Вялес-Міт" **Ігар Полудзень** ацаніў, ці ёсць шансы ў польскага мяса і кілбас заняць лідзіруючыя пазіцыі на беларускім рынку.

– У любым выпадку, калі на прылаўках магазінаў з'явіцца новая прадукцыя, то можна лічыць, што ў нашага і іншых мясаперапрацоўчых прадпрыемстваў з'явіцца дадатковы канкурэнт, – разважае спецыяліст. – Новае заўсёды выклікае цікавасць у пакупнікоў. Аднак з іншага боку – гэта штуршок прадпрыемствам рабіць прадукцыю лепшай, каб задаволіць патрабаванні пакупніка.

Як адзначае Ігар Полудзень, прадукцыя кампаніі "Вялес-Міт" прыйшлася пакупнікам даспадобы не толькі смакам, аднак і якасцю.

– Мясныя вырабы нашага прадпрыемства атрымліваюць належныя сертыфікаты, праходзяць лабараторныя даследаванні, прадпрыемства пільна сочаць за якасцю, – расказвае спецыяліст. – За якасцю пільна сочыць і само кіраўніцтва – штодзень праходзяць дэгустацыі прадукцыі, перш чым трапіць на прылаўкі магазінаў, а ў далейшым у халадзільнікі пакупнікоў.

Тым больш прадпрыемства можа пахваліцца не толькі якасцю, але і багаццем асартыменту. На мясакамбінаце "Вялес-Міт" выпускаюць 50 відаў разнастайных мясных вырабаў. Сярод іх 20 відаў сыравэнджанай кілбасы, 13 – варанавэнджанай, 15 – варанай, а таксама сасіскі, вырабы са шпіку, з субпрадуктаў, паўфабрыкатаў.

– Разнастайнасць нашай прадукцыі сведчыць пра тое, што мы можам задаволіць любыя густы нашых пакупнікоў, – заўважае спецыяліст. – А значыць, зможам канкурыраваць з іншымі мясаперапрацоўчымі прадпрыемствамі, у тым ліку і з іншых краін.

Сучаснае абсталяванне на прадпрыемстве дазваляе рабіць прадукцыю высокай якасці.



Галіна СІНІЦА
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

### Топ-5 парад, як правільна гатаваць і выбіраць мяса

**Парады прыводзяцца паводле кнігі "Густы Еўропы – якасць і традыцыя", якую прэзентавалі гасцям прэс-канферэнцыі.**

1. Высакаякасная ялавічына адрозніваецца крыва-чырвоным колерам. Выключэнне – мяса ў вакуумнай упакоўцы, якое без кіслароду змяняе колер на цёмна-чырвоны, аднак, калі мяса дастаць з упакоўкі, натуральны колер аднаўляецца.

2. Белыя праслойкі ў ялавічыне сведчаць пра тое, што мяса маладое. Жоўтыя – пра тое, што мяса ўзятае з тушы старой жывёлы.

3. Валокны ялавічыны дастаткова трывалыя, таму сырое мяса неабходна рэзаць упоперак валокан, інакш пасля цеплавой апрацоўкі яго цяжка будзе укусіць.

4. Мяккасць і сакавітасць ялавічыны можна захаваць, калі размарожваць яе паступова. Паколькі марудное размарожванне папярэджвае ўцечку плазмы, сокі застаюцца ў клетках, а мяса такім чынам захоўвае смак.

5. Каларыйнасць свініны можна зменшыць, калі выбіраць адпаведны спосаб прыгатавання. Свініну можна прыгатаваць у гаршчочку для запякання без тлушчу альбо на электрычным грылі. Замест высокакаларыйных соусаў можна выкарыстоўваць гародніну, прыгатаваную на пары, альбо салату з гародніны. Дзякуючы гэтаму свініна не будзе такой каларыйнай і лягчэй засвоіцца арганізмам.

# У Шылавічах скардзяцца на пахі ад палёў фільтрацыі

ВІЛЕЙКА

**Некаторыя жыхары вуліцы Лясной у Шылавічах ля Вілейкі зусім не рады летняй спякоце. Яшчэ б: тады мацней чуваць непрыемныя пахі ад размешчаных побач палёў фільтрацыі.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Надзея Сыракваш паказвае, дзе калісьці ў парку была артэзіянская свідравіна.

– Мінулым летам дзеці прыязджаюць і кажуць: “Мама, што тут такое дзесьці смярдзіць, мо твой адстойнік?” “Не, – кажу, – у нас ён шчыльна зачынены, гэта на палі фільтрацыі каналізацыю выліваюць”, – дзеліцца **Валянціна Губіч**. – Водар вечарам такі стаяў!

Непрыемныя пахі пачалі разносіцца з мінулага года, тлумачыць суседка **Надзея Сыракваш:**

– Тады каналізацыйныя сцёкі пачалі выліваць на палі фільтрацыі. А яны блізка каля нашых дамоў: напрамкі да бліжэйшага дома 135 метраў. І нават бліжэй цячэ з трубы: яны то ржавыя, з іх бруя цячэ і прама на зямлю. У аднаго суседа заліло роўна з фундаментам. Атрымліваецца, столькі год гэтыя трубы ляжаць, ніхто нічога не рабіў. За ваду патрабуюць грошы, а калі дзе што прарвала, ты вінаваты, бо ў цябе свая каналізацыя.

Надзея Сыракваш праводзіць да палёў фільтрацыі. І хоць у гэты дзень не моцна спякотна, трохі ад дома адыходзіш – і пачынаюць даносіцца “водары”.

На шляху трапілася закінутая сістэма механічнай ачысткі. Праўда, на днях яе ўжо засыпалі. А да гэтага яна дзесяцігоддзі разбураная стаяла, кажа Надзея.

Ачышчальныя збудаванні на балансе Вілейскага райаграсэрвісу лічыцца са снежня 1973 года. Дамы на вуліцы Лясной пачалі ўзводзіцца пазней.

– Мы будаваліся ў 1979 годзе. Старыя палі фільтрацыі ўжо не працавалі, і нам дазволілі будавацца, – тлумачыць Надзея Сыракваш. – Стаялі чатыры домікі, мы пабудавалі пяты. А потым і іншыя сталі будавацца. Дык у гадах 1983–1984, як пабудавалі станцыю тэхабслугоўвання, каналізацыйныя сцёкі адвялі ад Шылавічаў.

– **На ваш погляд, якое ёсць выйсце?**

– Трэба рабіць так, як калісьці. Калі мы будаваліся, тут добра ўсё было. Пазачыняна, ніхто нічога не выпампоўваў на палі фільтрацыі. Хай сцёкі вядуць да Вілейкі, да гарадскіх ачышчальных збудаванняў. Кажуць, раней былі трубы ў тым накірунку.

## Вада ўжо не пахне

Раней жыхары Шылавічаў скардзіліся на пах вады з водаправода. Пры награванні яна пахла каналізацыяй. І па гэтым пытанні прыязджалі розныя службы, бралі пробы вады ў дамах. У адным з выпадкаў зафіксавалі неадпаведнасць вады патрабаванням санітарна-эпідэміялагічнага заканадаўства па паху.

Патлумачылі, што пах мог з’явіцца з-за бактэрый легіянелы, і парэкамендавалі адзін-два разы на месяц прагравацць бойлер да 75 градусаў. Але, кажа Валянціна Губіч, у яе не бойлер, а кацёл – усё роўна непрыемны пах у гарачай вадзе быў. Аднак пакуль гэта праблема ў мінулым: як скончыўся ацяпляльны сезон, вада перастала пахнуць. Але суразмоўцы хочуць, каб падобныя сітуацыі былі выключаны.

– Хацелася, хай бы нам яшчэ дзве артэзіянскія свідравіны вярнулі, якія ў парку і на Кругліцкай Горцы былі, – кажа Надзея Сыракваш.

## Што па законе

Па заканадаўстве адлегласць палёў фільтрацыі да дамоў у межах нормы, паведамляецца ў сакавіцкім адказе абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя:

“Згодна з патрабаваннямі, базавая санітарна-ахоўная зона ад палёў фільтрацыі плошчай да паўгектара вытворчасцю да 50 кубічных метраў у суткі павінна быць не менш за 100 метраў. Фактычная адлегласць да жылой забудовы ад працоўчай карты палёў фільтрацыі плошчай 0,44 гектара – больш за 100 метраў”.

Але зафіксавалі праверкі такія факты: “Устройства і ўтрыманне ачышчальных збудаванняў каналізацыі аграгарадка ў цэлым не адпавядае патрабаванням санітарных нормаў і правілаў “Патрабаванняў да сістэм водаадвядзення населеных пунктаў”: не абгароджаныя, сістэма механічнай ачысткі (адстойнік, септык, пескалоўка) разбураная, у нерабочым стане, не эксплуатуецца. Зліў сцёкавых вод з асенізацыйных машын ажыццяўляецца на карту адкрытых палёў фільтрацыі. У Вілейскі райаграсэрвіс накіраваны рэкамендацыі па ўхіленні парушэнняў”.

Але пакуль сітуацыя атрымалася падвешаная, бо райаграсэрвіс рыхтуецца развітацца з ачышчальнымі, а новы гаспадар – прыняць.

Выканальнік абавязкаў дырэктара Вілейскага райаграсэрвісу **Андрэй Непачаловіч** кажа:

– Людзі і мне ў Шылавічах указвалі на праблему з палямі фільтрацыі. Хоць мы пакуль і ўласнікі, але карыстаецца імі водаканал. Да таго ж, ачышчальныя збудаванні амаль гатовыя да перадачы водаканалу ў бліжэйшы час.

У Вілейскім водаканале патлумачылі, што пакуль ачышчальныя збудаванні належаць райаграсэрвісу. Як толькі іх перададуць установе і прымуць на баланс, то будуць разбірацца з гэтым пытаннем.

Таму, як толькі ў ачышчальных збудаванняў з’явіцца гаспадар, зноў вернемся да гэтай тэмы. А пакуль Надзея Сыракваш кажа:

– Папраўдзе, хачу на гэту справу забыцца. Па размеркаванні ў Шылавічы патрапіла, але прырасла да гэтага месца. Але так, бывае, хочацца прадаць усё і паехаць туды, дзе няма гэткіх праблем...

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



ЛІЧБА НУМАРА

**1700** прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці працуе ў Беларусі

Выпрабляюць: трыкатажныя вырабы, жаночыя і мужчынскія сумкі, панчошна-шкарпэтачныя вырабы, ільняныя тканіны, тканіны з хімічных валокан

Паводле Белстата.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 9.06 | 16.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 19 807,00 | **20 047,00** |
| Еўра | 22 523,00 | **22 488,00** |
| Злоты | 5 196,27 | **5 060,84** |
| Расійскі рубель | 306,42 | **304,00** |
| Грыўня | 795,03 | **802,85** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 8.06** | | |
| Еўра | 22400/22650 | **22350/22600** |
| Долар ЗША | 19700/19900 | **19950/20100** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 8.06 | 15.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 143 500 | **143 800** |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | **58 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 29 800 | **29 800** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 80 000 | **80 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 41 800 | **41 800** |
| Селядзец, 1 кг | 57 000 | **57 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | **15 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 21 500 | **21 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 15 500 | **14 500** |
| Алей “Дзіўны”, 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 38 500 | **38 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **16 500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 14 500 | **12 000** |
| Часнок, 1 кг (малады) | 49 500 | **80 000** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 8 900 | **8 900** |
| Морква, 1 кг (маладая) | 13 900 | **14 500** |
| Баклажаны, 1 кг | 48 900 | **43 900** |
| Лімоны, 1 кг | 46 900 | **45 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 24 900 | **23 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 34 900 | **29 500** |
| Нектарыны, 1 кг | 44 900 | **45 000** |
| Абрыкосы, 1 кг | 39 900 | **39 900** |
| Ківі, 1 кг | 24 900 | **29 500** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 22 500 | **28 500** |
| Агуркі, 1 кг | 13 900 | **12 900** |
| Перац, 1 кг | 57 500 | **55 000** |
| Радыска, пучок | 5 500 | **7 500** |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 14 900 | **14 900** |
| Клубніцы, 1 кг | 35 000 | **35 000** |
| Чарэшні, 1 кг | 69 900 | **55 000** |
| Вінаград, 1 кг | 43 500 | **40 000** |
| Бананы, 1 кг | 23 900 | **22 900** |
| Яблыкі, 1 кг | 12 500 | **13 500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 900 | **29 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 15 000 | **13 900** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | **20 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

## На Вілейшчыне згарэў хлеў – маладзечанец атрымаў апёкі

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Пажар адбыўся каля 16 гадзін 10 чэрвеня ў вёсцы Любкі Іжанскага сельсавета.

Са слоў 68-гадовага гаспадара, ён зайшоў у хлеў, уключыў святло, узяў патрэбную рэч і пайшоў да пчол. Святло не выключыў. Праз хвілін 10 убачыў, што хлеў гарыць у сярэдзіне.

Сам пачаў тушыць, дапамагалі суседзі. Але патушыць не атрымалася: па прыездзе выратавальнікаў хлеў ужо амаль цалкам згарэў.

Гаспадар, дачнік з Маладзечна, пры тушэнні атрымаў апёкі твару першай-другой ступеняў. Яго даставілі ў бальніцу, аказалі дапамогу і адпусцілі.

Папярэдняя прычына пажару – парушэнне правілаў эксплуатацыі электраабсталявання. Пра гэта расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш.**

## Віляйчанка выняла з чужой сумкі грошы і аддала яе назад

ВІЛЕЙКА

Пасля праведзенай праверкі 8 чэрвеня ўзбудзілі крымінальную справу за крадзеж у дачыненні да 33-гадовай жыхаркі Вілейкі.

Здарэнне адбылося ўдзень 24 мая. Кампанія адпачывала са спіртным у кватэры дома па вуліцы 1 Мая.

Жанчына пайшла адтуль, але ўспомніла, што забылася сумку. Папрасіла знаёмага схадзіць за ёй, а сама чакала на лаве на вуліцы.

Той пераблытаў і прынёс чужую сумку. Аднак жанчына залезла ў яе і выняла з кашалька мільён рублёў. Сказала мужчыну, каб чужую сумку аднёс назад, а прынёс яе.

Гаспадыня заўважыла знікненне грошай і паведаміла ў міліцыю.

Калі віляйчанку адшукалі, частку грошай яна паспела ўжо прагуляць. Пра гэта расказаў старшы оперупаўнаважаны аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Аляксандр Ардзяка.**

**Аддзел інфармацыі.**

## МАЗ сутыкнуўся з павозкай

ВІЛЕЙКА

Здарылася гэта каля паловы на дзявятую раніцы 10 чэрвеня на другім кіламетры аўтадарогі Кузьмічы-Даўборава на Вілейшчыне.

40-гадовы жыхар Вілейкі на аўтамабілі МАЗ з прычапам ехаў па галоўнай дарозе. Машына наехала на гужавую павозку, якая раптоўна выехала з другараднай дарогі. Кіравау ёй 20-гадовы жыхар Вілейскага раёна.

У выніку хлопец шпіталізаваны. У яго – адкрытыя вывіхі костак, ірваныя раны левай ступні і кісці, размазджэранне пальца і іншыя траўмы.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## Паклапаціцеся пра сваю бяспеку на чыгунцы

**Каб не стаць ахвярай злачынства, выконвайце простыя правілы:**

– каштоўныя рэчы трымайце пры сабе,

– не пакідайце іх без нагляду,

– не перадавайце незнаёмым,

– не давайце незнаёмым мабільны тэлефон,

– не спіце ў цягніках і залах чакання, асабліва калі маеце пры сабе грошы ці каштоўныя рэчы,

– не варта дэманстраваць, куды вы кладзяце мабільны тэлефон або грошы,

– на банкаўскай картцы не пазначайце пінкод,

– калі выходзіце з цягніка, звярніце ўвагу, ці прыхапілі вы ўсе свае рэчы,

– у цягніку і на вакзале не варта слухаць музыку праз навушнікі,

– не піце спіртныя напоі на чыгунцы.

Будзьце пільныя, прымайце меры ўласнай і маёмаснай бяспекі.

**Ігар САВАЧКІН, намеснік начальніка Мінскага АУСТ, маёр міліцыі.**





Фота picsfab.com.

Мужчына забіў нажом траіх чалавек у доме суседзяў і параніў сваю жонку.

# У Смаргонскім раёне мужчына з рэўнасці забіў траіх чалавек

СМАРГОНЬ

**12 чэрвеня каля дзвюх гадзін ночы ў дзяжурную часць міліцыі патэлефанавала 38-гадовая жыхарка вёскі Солы Смаргонскага раёна.**

Яна паведаміла, што яе 33-гадовы муж нажом забіў у доме суседзяў траіх чалавек і нанёс цялесныя пашкоджанні ёй самой.

Падчас агляду месца здарэння следчыя раённага аддзела Следчага камітэта і абласнога апарату, а таксама эксперты і супрацоўнікі міліцыі знайшлі ў жылым доме без прыкмет жыцця з бачнымі пашкоджаннямі траіх раней судзімых мясцовых жыхароў – 35-гадовага мужчыну, яго 62-гадовага бацьку і 47-гадовую сужыцельку бацькі.

Жанчына, што паведаміла пра здарэнне, шпіталізаваная з рэзанымі ранамі рукі і нагі. Пагрозы яе жыццю няма.

Падазроны, які быў у сваім доме п'яны, затрыманы па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства.

У ходзе допытаў і іншых следчых дзеянняў высветлілася, што 33-гадовы мужчына забіў 35-гадовага на глебе рэўнасці. Двое іншых пазбаўленых жыцця пасля таго, як сталі сведкамі здарэння.

Падчас пошукавых мерапрыемстваў следча-аператыўная група знайшла нож.

Следчыя вывучаюць асобу падазронага. Раней да крымінальнай адказнасці ён не прыцягваўся.

Вырашаецца пытанне заключэння яго пад варту. З улікам характару і цяжкасці злачынства ў дачыненні да фігуранта правядуць судова-псіхіятрычную экспертызу.

Расследаванне крымінальнай справы працягваецца.

**Сяргей ШАРШАНЕВІЧ, афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці.**

## У Маладзечне 17-гадовая дзяўчына, пасварыўшыся з сяброўкамі, скокнула з другога паверха

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося ў раёне Лясных 13 чэрвеня каля 14 гадзін.

У рэдакцыю газеты звярнуўся чытач, які расказаў, што на Лясных дзяўчына скокнула з другога паверха. Сама ісці не магла, давялося выклікаць "хуткую дапамогу".

У прыёмным пакоі маладзечанскай бальніцы гэту інфармацыю пацвердзілі.

– Дзяўчына, якую прывезла "хуткая", скардзілася на болі у пазваночніку. Цяпер яна праходзіць абследаванне ў бальніцы. Ёй 17 гадоў. Дзяўчына расказала, што перад тым, як скокнуць уніз, яна пасварылася з сяброўкамі, якія яе крыўдзілі.

Па інфармацыі відавочцаў, сяброўкі закрылі дзяўчыну на балконе, з-за чаго яна вымушаная была скокнуць уніз.

**Наталля ТУР.**



Фота з суполкі Молодечно LIVE:)

Дзяўчыне спатрэбілася дапамога доктароў. На "хуткай" с пашкоджаннем пазваночніка дзяўчыну адвезлі ў бальніцу.

## У Маладзечне шукаюць "гнамафіла"

МАЛАДЗЕЧНА

У фестывальным Маладзечне, пакуль адны спявалі песні і чыталі вершы, невядомы пакваліўся на гіпсавую фігуру гнома, які стаяў у двары мясцовай жыхаркі.

Як паведамляе УУС Мінскага аблвыканкама, неўсталяваны злачынец ў ноч на 12 чэрвеня з дваровай тэрыторыі дома пенсіянеркі па вуліцы Абухова ў Маладзечне выкраў гнома, які, па ацэнцы гаспадыні, каштаваў 800 тысяч рублёў.

Цяжка сказаць, якімі намерамі кіраваўся зламыснік.

Адно ясна: ён не адзіны ў сваіх прыхільнасцях.

Да прыкладу, у расійскім Калінінградзе створаны інтэрнэт-клуб аматараў садовых гномаў.

"Па народных павер'ях, калі гаспадары кладуцца спаць, гномікі ажываюць і бяруцца за працу па доглядзе за садам або лужком, на якім жывуць. Яны валодаюць магічнай сілай, здольнай прымусіць кветкі распускацца, лісту – памяняць свой колер, а ручаі – насычаць вільгаццю зямлю пад раслінамі" – упэўненыя сябры клуба.

Можа, невядомы з Маладзечна вырашыў такім спосабам пазбавіцца ад працы па ўласным прысядзібным участку? – пакідае рытарычнае пытанне **Аляксандр Несцераў**, interfax.by.

# 28-гадоваму маладзечанцу Ігару Цімошку патрэбная дапамога

МАЛАДЗЕЧНА

**У калідоры рэдакцыі жанчына гартае падшыўку.**
**“Скажыце, а артыкула пра хлопца, якому патрэбная дапамога на лячэнне ад раку, у газеце не было?” – “Вы хочаце рэквізіты?” – “Я яго мама”…**

Так мы пазнаёміліся з **Жаннай Цімошкай**, мамай Ігара, хлопца, які з усіх сіл змагаецца са страшнай хваробай.

Чатыры гады таму 24-гадовому **Ігару**, які звярнуўся да дактароў з просьбай выдаліць радзімку, якая яму перашкаджала, паставілі дыягназ – меланома (рак скуры), адзін з самых складаных, непрадказальных відаў раку, які хутка развіваецца.

І вось ужо чацверты год ён змагаецца за жыццё.

– Ігар такім харошым хлопчыкам заўсёды быў, – расказвае мама. Спачатку вучыўся ў школе №2, дзе назаўсёды палюбіў беларускую мову. Потым перайшоў у гімназію №7, бо там былі профільныя матэматычныя класы. Закончыў інстытут інфарматыкі і радыёэлектронікі. Працаваў па спецыяльнасці. Не магла нарадавацца на яго, калі Ігар з кімсьці па рабоце размаўляў па скайпе на англійскай мове. Было шмат прапаноў, каб Ігар паехаў працаваць у іншую краіну, але ён гаварыў, што любіць толькі Беларусь і працаваць і жыць хоча ў сваёй краіне. А ў Ігара столькі планаў на будучае…

У блізкіх Ігара надзея на тое, што ён паправіцца, яшчэ ёсць, а вось грошай ужо не хапае.

Цягам гэтых чатырох гадоў ён перанёс некалькі аперацый. На дадзены момант выяўленыя метастазы у лёгкіх, у мяккіх тканках грудной клеткі і больш за 17 метастазаў у мозгу.

Гэтай зімой ён прайшоў курс прамянёвай тэрапіі на мозг. Да гэтага лячылі дарагім швейцарскім прэпаратам Zelboraf – каля 7,5 тысячы долараў за месячны курс, куплялі спачатку самастойна, потым “выбілі” яго ў Міністэрства аховы здароўя – назіралася паляпшэнне.

Але два месяцы таму арганізм “прывык”, медыкаменты перасталі дапамагаць.

У пачатку мая з-за метастазаў, якія працягваюць расці ў мозгу, у Ігара здарыўся інсульт – яго паралізавала на правы бок – ён не можа хадзіць.

Дактары адмовіліся яго лячыць і адправілі дадому.

– Сказалі, што мы не ведаем, як, і не зможам вам больш нічым дапамагчы.

Жанна Іосіфаўна распавядае, што ў гэтай сітуацыі дзяўчына Ігара, **Настасся**, рукі не апусціла.

Яна ў спешным парадку праз знаёмых знайшла доктара ў Ізраілі, паралася.

Аказалася, што вось ужо больш за два гады ёсць новыя лекі, моцны супрацьракавы імунны прэпарат – Keytruda (у нас у Беларусі ён не сертыфікаваны, і нашы дактары пра яго нават не чулі). Сярод хворых, якія прымаюць гэты прэпарат, добрая статыстыка па выжыванні (> 75%).

Вядома, у прэпаратаў супраць раку ёсць адно АЛЕ – цана. Адна кропельніца каштуе 8,5 тысячы долараў. Капаць трэба адну кропельніцу кожныя тры тыдні. Нейкі бачны эфект можа назірацца не менш, чым пасля чатырох кропельніц.

**– Мы з бацькам Ігара ўжо прадалі ўсю нерухомасць, што ў нас была: і дачны домік, і гараж, і маленькую кватэру.**

Настасся паляцела ў Ізраіль – купіла адну кропельніцу, зрабілі адну ін’екцыю, глядзелі рэакцыю Ігара на гэты прэпарат. Перанёс нармальна.

– Таму мы хочам паспрабаваць лячыцца гэтым прэпаратам і далей. Насця паляцела ў Ізраіль за другой кропельніцай.

Сям’і Ігара вельмі цяжка далося гэтае рашэнне, прасіць аб дапамозе, але Ігару пакуль не становіцца лепш. Таму вельмі патрэбная дапамога. Ваша дапамога.

**P.S. – А калі выйдзе газета? – пытаецца мама Ігара.**
**– У пятніцу.**
**– Хоць бы дажыць…**

Наталля ТУР.


Фота забяспечана Жаннай ЦІМОШКАЙ.

Ігар Цімошка быў у ліку лепшых студэнтаў Мінска.

**Як дапамагчы?**

Просім усіх ахвотных дапамагчы і паўдзельнічаць у зборы грошай на лячэнне Ігара:

1) Дабрачынныя рахункі “Беларусбанка”:
Уладальнік рахунка Цімошка Ігар Сяргеевіч.
Банк ААТ “АСБ Беларусбанк”
Аперацыйная служба ЦБП 524 ААТ “АСБ Беларусбанк”
код філіяла ўкладу атрымальніка – 795
транзітны рахунак 3819382105243
– Долары ЗША – дабрачынны рахунак 000081;
– Еўра – дабрачынны рахунак 000016;
– Беларускія рублі – дабрачынны рахунак 000027;
– Расійскія рублі – дабрачынны рахунак 000022.

2) Нумар тэлефона МТС + 37529-762-06-73 (пры папаўненні рахунка нумара МТС гэтыя грошы можна пераводзіць на карту “Халва + МТБанк”)

3) З-за мяжы можна пакласці на тэлефон https://e-pay.by/

4) Вэбмані:
доларавы кашалёк: Z782388265646
еўравы кашалёк: E711215549654
расійскія рублі: R645386332500

У выпадку дадатковай інфармацыі або пытанняў, звяртайцеся да Анастасіі Дарафей (https://www.facebook.com/nastya.dorofey).

## Прытча пра падпіску

Даўным-даўно, калі яшчэ не існавала газет, людзі, якім трэба была парада, прыходзілі да мудрацоў.

Яны пераадольвалі 1000 кіламетраў, каб расказаць пра набалелае мудраму старцу.

Высахла вада ў калодзежы або пад паселішчам развёўся статак дзікоў, здрадзіла жонка або сусед скраў каня. Пра ўсё людзі імкнуліся расказаць мудраму старцу.

І ніхто ніколі не сыходзіў ад яго без парады. Але заўважыў старац, што праблемы і просьбы людзей паўтараюцца і што яму даводзіцца гаварыць адно і тое ж.

І звярнуўся ўпершыню старац да свайго вучня, каб самому папрасіць парады, і сказаў:

– Скажы мне, як дапамагчы ўсім і кожнаму, калі я адзін, а просьбаў не змяншаецца. Як сказаць чалавеку з Валожына і з Астрайца, што іх праблема вырашальная? І чаму ты ўвесь час за мной запісваеш?

– А я падумаў, адказаў вучань, што калі твае адказы запісаць і разам з паштовымі галубамі разасланць у гэтыя гарады, то чалавеку не давядзецца прыходзіць да нас. Бо адказ на сваё пытанне ён знойдзе ў маім лісце.

– Дык гэта ж геніяльна! – усклікнуў старац. – А каб людзі не прапускалі нашых паштовых галубоў, трэба прыдумаць нешта такое, каб навіны даходзілі своечасова.

Так мудры старац прыдумаў падпіску на “Рэгіянальную газету”.

Прытчу запісала Наталля ТУР.

## Бібліятэка ладзіць конкурсы для аматараў кніг

МАЛАДЗЕЧНА

Цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча разам з "Рэгіянальнай газетай" і курсамі беларускай мовы "Мова нанова" абвяшчае конкурс "Адкрый для сябе беларускую кнігу ".

Мы запрашаем вас цягам трох месяцаў, ад 10 чэрвеня да 31 жніўня, завітаць на абанемент цэнтральнай бібліятэкі і браць для чытання беларускія кнігі ці часопісы.

Лепшых кнігалюбаў чакаюць каштоўныя падарункі.

Пераможцаў конкурсу вызначае журы з прадстаўнікоў бібліятэкі, курсаў "Мова нанова" і "РГ". Будуць тры прызавыя месцы.

Пераможцамі стануць удзельнікі, якія прачыталі найбольшую колькасць беларускамоўных друкаваных кніг і часопісаў.

**Чытачоў кніг на замежных мовах чакаюць падарункі**

Супрацоўнікі залы літаратуры на замежных мовах цэнтральнай раённай бібліятэкі праводзяць конкурс "Лета з кнігай".

Школьнікі, якія хочуць павысіць свой узровень ведання замежных моў, могуць усё лета чытаць кнігі на англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай і польскай мовах.

Для кожнага чытача завядуць спецыяльны фармуляр. За пяць прачытаных кніг школьнікаў чакае прыз.

У канцы лета падвядуць вынікі конкурсу і абяруць самых актыўных чытачоў. Яны атрымаюць падарункі на ўрачыстым свяце кнігі на пачатку верасня.

Аддзел інфармацыі.

## Пакажуць выставу да 70-годдзя ўтварэння Вілейскага раёна

ВІЛЕЙКА

Вілейскі краязнаўчы музей з нагоды юбілею ладзіць выставу "Вілейка: ад павета да раёна. Да 70-годдзя ўтварэння Вілейскага раёна". На ёй будзе паказаны ўвесь шлях адміністрацыйна-тэрытарыяльных змен, якія адбываліся на гэтай зямлі пачынаючы з 18 стагоддзя і да нашых дзён.

Да ўвагі наведнікаў будуць карты раёна (павета) розных часоў, даўнейшыя фотаздымкі, унікальныя дакументы і рэчы. Асноўны акцэнт нададуць гісторыі раёна за апошнія 70 год.

Усіх ахвотных запрашаюць на адкрыццё 22 чэрвеня а 17 гадзіне ў выставачную залу імя Сілівановіча.

Паводле Вілейскага краязнаўчага музея.

**Даведка "РГ".** Сёлета Вілейскі раён святкуе 70 год з дня ўтварэння. Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 5.07. 1946 года Куранецкі раён Маладзечанскай вобласці быў перайменаваны ў Вілейскі раён з цэнтрам у Вілейцы.

# Пяшчотны батык і працаёмкі габелен паказваюць у Мядзеле

МЯДЗЕЛ

**Ніну Пілюзіну называюць адной з самых вядомых габеленшчыц Беларусі. Да 21 ліпеня з яе творчасцю можна пазнаёміцца ў Мядзельскім музеі народнай славы.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Ніна Пілюзіна знаёміцца са сваімі творамі ў Мядзельскім музеі народнай славы.

Праўда, тры габелены Ніны Пілюзінай наведнікі бачаць тут пастаянна – ужо год з 30. У 1985 годзе яна ўвасобіла для музея мядзельскія паданні.

– Мне расказалі паданні, і я ўжо выбрала, якія мяне зацікавілі. Зрабіла малюнак, падабрала ніткі. Гэта быў заказ, і па маім малюнку габелены выконвалі на Барысаўскім камбінаце, – прыгадвае.

Прызнаецца творца, што праца над габеленам – доўгая і карпатлівая: год і больш можа пайсці, пакуль завяршыш яго.

**– Што галоўнае у стварэнні габеленаў?**

– Галоўнае, як і ва ўсялякім мастацтве, – гэта ідэя. Калі яе няма, калі не адчуваеш тое, што ты робіш, то яно і будзе такім нецікавым. Бо калі яно табе нецікава, то і іншым таксама.

На выставе Ніна Пілюзіна прадставіла каля 50 прац. Апроч габеленаў, на выставе можна пабачыць батык – роспіс на шоўку. Творы такія пяшчотныя, бязважкія.

– Такія, як мая душа, – усміхаецца мастачка.

**– Вы займаецеся габеленамі, батыкам і акварэллю. Што найбольш цікава ў гэты перыяд жыцця?**

– Мне ўсё цікава. Таму што ад працы над габеленам так стамляешся, бо гэта марудна, доўга, укладаеш шмат сіл і часу, і потым хочацца пабыць на прыродзе. Адкуль жа ўсе сілы нашы: ад зямлі, ад прыроды. І акварэллю пішу, бо ўсё адно дапаўняе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ". Ніна Пілюзіна** – лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі за цыкл габеленаў для Палаца Рэспублікі, яе творы захоўваюцца ў музеях нашай краіны, Расіі, Украіны, Польшчы, прыватных зборах і калекцыях. Кіравала працай над копіяй ўнікальнага габелена 17 стагоддзя для Нясвіжскага палацава-паркавага ансамбля. Нарадзілася ў 1944 годзе. Дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі ў вёсцы Доўгавічы на Мсціслаўшчыне. Скончыла мастацкую вучэльню імя Глебава і тэатральна-мастацкі інстытут. Жыве ў Ратамцы пад Мінскам.

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-2106, нядорага. Т. (8-029) 5753932.*
- ВАЗ-21112, 2007 г.в, 1,5 інжэктар, серабрысты, універсал, 23 000 000 руб, торг. Т. (8-044) 7830571.*
- ЗІЛ-130, дызель Д245, самазвал-сельгаснік, добры стан. Т. (8-029) 8777563.*
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Рэно-Меган-Сцэнік-2, 2003 г.в, бензін, 1,6 л, 16-клапанны, серабрысты металік, еўрапеец (з Італіі), максімальная камплектацыя. Куплены вясной 2011 г. Адзін гаспадар у РБ. Прабег 185 000 км. Т. Вэлком (8-029) 3103362.
- Сітраэн-Эвазіён, 1999 г.в, 2,0 турба, бензін, белы. Маладзечна. Т. (8-033) 3841836.
- Сітраен-Ксара па запчастках, 1,8Б. Т. (8-029) 6653394.*
- Таёта-Авенсіс, 1999 г.в, Д, Вілейка. Т. (8-029) 5358791.
- ФВ-Пасат В3, 1993 г.в, 1,9ТД, фіялетавы, універсал, выдатны стан, 43 000 000 руб. Т. (8-029) 8755766.
- ФВ-Б 2,1987 г.в, 1,6Д, універсал, бардо, на хаду, добры стан. Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 3463652.
- Фіят-Брава, 2000 г.в, 1,9Д. Т. (8-029) 3801916.
- Фіят-Брава, 1,6Б, добры стан, 27 000 000 руб. Т. (8-029) 6696926.*
- Фіят-Дукота, 1994 г. в., 1.9 TD, белы, грузавы, 44 000 000 руб. Мядзел.Т. (8-029) 3650053.*
- Форд-Мандэа, 1993 г.в, 1,8 інжэктар,17 000 000 руб. Т. (8-029) 9303051.
- Форд-Мандэа 3, 2002 г.в, добры стан. Т. (8-044) 5498799, (8-01771) 53758.*
- З/часткі б/к да Опеля-Астры G, Вектры В, Вектры С, Зафіры А.Т. Ёсць амаль усё. МТС (8-029) 8558707.*
- З/часткі б/к да ФВ-Пасат В-5, 1998 г.в, 1,9 TДІ, 1,8 турбабензін. Т. МТС (8-033) 3425134.*
- З/часткі б/к да Фіята-Брава, 1999 г.в, Уліс, 1999 г.в. Ёсць амаль усё. Т. МТС (8-029) 5063202.*
- З/часткі да ФВ-Пасат Б3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- Запчасткі да ЗІЛ-130. Т. (8-029) 3999382.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Рухавік, каробку, тарпеду да Пікасо. Т. (8-033) 6653394.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўтамабіль у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто ў любым стане. Дорага! Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- Паслугі міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. Каналізацыя. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*



**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, 9/56. Цана дагаворная. Т. (8-029) 7685126.
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 6372633.*
- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі, 3 паверх. Т. (8-033) 6639658.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы на Зеніце. 51,1/16,4/13,3/8,9. Першы паверх 5-павярховага панэльнага дома. Т. (8-029) 2572419.
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-01771) 20165, (8-025) 7417101.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, другі паверх, цэгла. Т. (8-01771) 28073, (8-033) 6041497.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, атынкаваны, падвал, аглядная яма. Т. (8-029) 6068706.*
- Дом драўляны на вываз, 8х5 м; прыбудова, 5х5 м. Танна. Смаргонскі р-н. Т. (8-029) 1142181, (8-029) 1384161.*
- **ДОМ ДРАЎЛЯНЫ У В. КЛЫНІ, 2 КМ АД ВІЛЕЙКІ, ПОБАЧ ЛЕС, 25 СОТАК, КАЛОДЗЕЖ.** Т. (8-029) 9077527.
- Дом з участкам у в. Насілава. Т (8-029) 2697533.*
- Дом з выгодамі ў Вілейцы. Т. (8-029) 5358791.
- Дом ў в. Асанава Маладзечанскага р-на, 104 кв.м, 25 сотак, газ, 1 паверх, гаспадарчыя пабудовы, гараж, Т. (8-029) 6103459.*
- Дом у в. Куранец. Больш за 100 кв.м, зямельны участак 40 сотак. 90 000 000 руб. Торг. Т. (8-029) 5609402, (8-029) 5609398.
- Дом у в. Плікавічы, 5 км ад Вілейкі, 40 кв. м. Ёсць гаспадарчыя пабудовы, калодзеж. Т. МТС (8-029) 2716495.
- Дом у в. Снежкава, 70% гатоўнасці, 25 сотак, побач лес. Т. МТС (8-029) 5865055.*
- Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 3999382.*
- Дом у Маладзечне, 70/53/30, газ, выгоды, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Участак 10 сотак у в. Снежкава, падмурак пад дом 8х8 м, падмурак пад лазню 4х9 м. Можна з лазняй 4х9 м. Т. МТС (8-029) 5865055.*
- Участак 15 сотак у в. Снежкава Вілейскага р-на. Прыватызаваны, закансерваваны. Т. МТС (8-029) 5063882.
- Участак для будаўніцтва дома ў Вілейцы па вул. Жалігоўскага, 15 сотак, прыватызаваны, 46 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 2702418.

### МЯНЯЮ

- 2-пакаёвую кватэру ў Віцебску на Маладзечна. Разгледжу любыя варыянты.Т. (8-029) 8529931.

### ЗДАМ

- 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 1649642.
- Адзін пакой у 3-пакаёвай кватэры у 6-м мікраараёне без гаспадыні. Маладзечна. Т. (8-029) 5719435.
- Гараж у Маладзечне па вул. Міру, 6х8. Т. (8-029) 5753932.*





## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музычнае суправаджэнне вяселляў, юбілеяў. Баян. Валынка. Адэкватная цана. ІП Ярук С.П. УНП 690696231. Т. (8-029) 7758341.*
- Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- БУС, да 1 тоны, нядорага. Т. МТС (8-029) 5526667.*
- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*
- Аддзелка дамоў сайдынгам. Вадасцёкавыя сістэмы (пластык). Іншыя аддзелачныя работы. Магчыма растэрміноўка. ІП Барысевіч А.П. УНП 690686296. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1022232.*



## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*



Фота забяспечана Галінай ІВАНЬКІНАЙ.

**На выпускным студыі "Малышок" дзеткам уручылі сертыфікаты. Юныя акцёры паказалі свай выпускны спектакль.**

# Тэатральная студыя "Малышок" адсвяткавала першы выпускны

МАЛАДЗЕЧНА

**Першы выпускны адзначыла тэатральная студыя "Малышок", якая займаецца як на базе цэнтра дзіцячай творчасці "Маладзік", так і ў інтэрнаце станказавода.**

Кіруе студыяй **Галіна Іванькіна.**

Яна расказала, што ад верасня ў студыі займаліся 14 дзетак. Самай малодшай, **Леры Гоіч**, – 3 гады і 9 месяцаў.

– Бацькі прывялі яе ў студыю і сказалі, што яна хоць маленькая, але таленавітая. Узялі і не пашкадавалі.

Цягам года дзяцей вучылі сцэнічным рухам, сцэнічнай гаворцы. Галіна Іванькіна вучыла іх вымаўляць хуткамоўкі. Акрамя таго, дзяцей знаёмілі з асаблівасцямі тэатра лялек "Батлейка". Вучылі працаваць з пальчыкавымі, пальчаткавымі лялькамі.

Дзеткі мелі магчымасць паспрабаваць сябе ў ролі акцёраў.

Адным з такіх выхадаў стаў дэбют 6-гадовага **Уладзіслава Кліпцэвіча.** Ён на сцэне чытаў і інсцэніраваў верш "Злы сабака". Верш пра сяброўства, пра тое, што нават сабака злы ад таго, што з ім ніхто не хацеў сябраваць.

Сабаку зрабіла **Марына Лазар**. Дзяўчына захапляецца аэрадызайнам. Таму сабачка быў з паветраных шарыкаў.

У канцы навучальнага года ўсе 13 выпускнікоў (14-ы хлопчык з'ехаў з бацькамі жыць у іншую краіну) атрымалі сертыфікаты, якія пацвярджаюць тое, што дзеці закончылі тэатральную студыю.

Але адпачываць маленькім артыстам пакуль рана. У іх запланаваныя гастролі ў дзіцячых садках і школах для дзяцей-інвалідаў.

**Наталля ТУР.**

# Адкрыццё скейт-парку, канцэрты і спаборніцтвы будуць на фестывалі "Энергія маладосці" ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**У гарадскім парку Вілейкі 1 ліпеня пройдзе фестываль моладзевых субкультур "Энергія маладосці" і адкрыццё скейт-парку.**

## Праграма

**Цэнтральная плошча**

11:30-12:00 – флэшмоб з мыльнымі бурбалкамі (шэсце ад фантана да скейт-парку).

**Гарадскі парк з 12:00 да 01:00**

12:00-12:15 – урачыстае адкрыццё скейт-парку.

12:15-13:00 – канцэрт **Сашы Нэма**.

13:00-17:00 – паказальныя выступленні і спаборніцтвы па скейтбордынгу, BMX і ўзнагароджанне пераможцаў;

13:00-15:00 – паказальныя выступленні і спаборніцтвы па воркаўту, узнагароджанне лепшых;

**Танцавальная зона:**

13:00-17:00 – фестываль фарбаў з удзелам ды-джэя з Мінска, хіп-хоп марафон

15:00-17:00 – велаквэст "Мой горад", майстар-клас па скандынаўскай хадзе, фітагарбата ад ГА "ЗОВіК";

18:00-22:00 – забаўляльная праграма з удзелам вядучых са сталіцы **Алены Сацюк** і **Дзяніса Клясунова**, артыстаў **Андрэя Тарасава**, **Івана Клешчанкі**, групы ЧэДэ, кавер-гуртоў "Wild horses" і "ТрыВІА";

22:00-23:30 – рок-канцэрт з удзелам гуртоў "Белая Варона" (Вілейка), PREVAIL (Маладзечна), Pequot (Мінск-Вілейка), "Элемент" (Вілейка-Маладзечна), MEANDR (Смаргонь), 16plus Чэрвень), KRNDSHS (Мінск), Cotton Buds (Докшыцы) і іншых.

23:30 - 01:00 – дыскатэка "Не сакрэт".

У парку будуць працаваць зоны гандлю, атракцыёнаў, а таксама:

зона гульняў: гарадкі, фрызбі, бадмінтон і іншае;

арт-зона: фотасушка, аэраграфіі, арт-грузавік;

дзіцячая зона: цацкі, кнігі, забавы, творчасць з аніматарамі;

тэатральная зона: вулічныя тэатры.

**Арганізатары фестывалю "Энергія маладосці".**

# Праведнік свету Мікалай Кісялёў

*Працяг. Пачатак у №№23, 24*

**Камсамолка Аня па закліку сэрца пайшла ў атрад для барацьбы з акупантамі. Яе адразу ж прызначылі разведчыцай.**

Дзяўчына аж да пераходу за лінію фронту адказна ставілася да выканання пастаўленых задач. Яна здабыла карту размяшчэння нямецкіх гарнізонаў з указаннем агнявых пунктаў і колькасці ворага. Выкрывала нямецкіх шпіёнаў, пашырала сетку агентуры і сувязных, вяла тлумачальную работу сярод насельніцтва, выяўляла зброю ў мясцовых жыхароў і дастаўляла яе ў атрад, удзельнічала ў баявых аперацыях...

Знаёмства партызан атрада Асташонка з атрадам "Дзядзькі Васі" адбылося з-за выпадковай трагедыі. У вёсцы Рудня быў млын, дзе ў даверанага чалавека партызаны пакінулі муку і збожжа. Па прадукты паслалі групу партызан, але на шляху яны наткнуліся на разведчыкаў атрада "Дзядзькі Васі". Па непаразуменні адбылася кароткая перастрэлка, падчас якой паранілі партызана Казака з атрада Асташонка.

Адведаць параненага праз два дні ў атрад Асташонка прыехаў сам "Дзядзька Вася" – маёр **Васіль Трафімавіч Варанянскі.** Пасля першага знаёмства, ацаніўшы становішча, ён параіў камандаванню перабазіравацца бліжэй да атрада "Мсціўец", што партызаны і зрабілі.

**Па меры павелічэння колькасці атрада Асташонак перастаў прымаць бежанцаў з Мінскага гета. Паміж камандзірам і яўрэямі вырасла сцяна адчужэння.**

Не дапамог нават праведзены з гэтай нагоды сход атрада.

Калі Асташонак сышоў на першую сур'ёзную баявую аперацыю па разгроме гарнізона ў вёсцы Бублі, то не ўключыў у склад групы яўрэяў з Мінскага гета. Пасля той сутычкі ў атрадзе адбыўся раскол. Камандзір забраў найбольш баяздольную частку байцоў са зброяй і пакінуў групу яўрэяў, змяніўшы месца дыслакацыі. Пакінутыя 38-40 членаў атрада без зброі выжывалі ў лесе амаль паўтара месяца. Пасля таго, як яны з'елі двое коней, больш харчавацца не было чым. 3 мая яўрэйская група ўлілася ў склад атрада "Дзядзі Васі" ў якасці ўзвода 3-й роты.

Атрыманы досвед арганізацыі барацьбы ў падполлі спатрэбіўся Кісялёву і ў партызанах. Ён займаўся пытаннямі разведкі пры падрыхтоўцы баявых аперацый, ажыўленнем партыйна-камсамольскай работы раёнаў і агентурнай сувяззю. Праводзіў тлумачальную работу сярод насельніцтва па зрыве мабілізацыі моладзі для адпраўкі ў Германію, вярбоўкі ў паліцыю, па зрыве паставак збожжа, здачы мясапрадуктаў і іншага.

Кісялёў правёў вялікую работу па фарміраванні падпольных партыйна-камсамольскіх арганізацый у тыле. Ён стварыў падпольны Плешчаніцкі РК КП(б)Б.

Праз атрад "Мсціўец" Мікалай звязаў з Масквой шэраг невядомых дробных атрадаў і груп, якія дзейнічалі недалёка ад мястэчка Князігін.

Лёс павольна, але няўхільна падводзіў Кісялёва да яго асноўнай жыццёвай місіі.

Ваенны савет партызанскіх атрадаў улічыў яго вялікі арганізатарскі досвед па фарміраванні баявых падраздзяленняў, а таксама асабістыя якасці афіцэра. 16 чэрвеня 1942 года яму даручылі арганізаваць новы партызанскі атрад "Перамога". Меркавалася, што ён будзе сфарміраваны за кошт аб'яднаных груп былых ваеннапалонных і яўрэйскага насельніцтва, што ўцякло ў лясы падчас зверскіх пагромаў мястэчак і што жыло недалёка ад месцаў размяшчэння партызанскіх атрадаў. У дапамогу будучаму камандзіру партызанскага атрада выдзелілі пяць чалавек.

**Элік Майсеевіч Майзель** (1913 г.н.), беспартыйны, яўрэй, жыхар Даўгінава. У маі 1942 года ён прывёў з сабой у атрад два дзесяткі чалавек, удзельнічаў у шэрагу баявых аперацый. Быў старшыной атрада.

**Мікалай Іванавіч Рогаў** (1914 г.н.), член ВКП (б) з 1939-га. Ягонае вайсковае званне – палітрук. Да вайны Рогаў жыў у вёсцы Буткі Буткінскага раёна Свярдлоўскай вобласці. У атрад ён прыйшоў у маі 1942 года. У атрадзе, што фарміраваўся, спачатку быў камандзірам узвода, а затым роты. Перад выхадам на Вялікую зямлю яго прызначылі камісарам групы.

**Ансал Абрамавіч Меерсон** (1919 г.н.), беспартыйны, жыхар Даўгінава, яўрэй. У атрад прыйшоў разам з Майзелем – у складзе групы, якую той прывёў у маі 1942 года.

**Віктар Іванавіч Гарадзішчаў** (1917 г.н.), рускі, беспартыйны, жыхар Чэлябінскай вобласці. У атрад уступіў у сакавіку 1942-га.

**Васіль Паўлавіч Баннікаў** (1915 г.н.), кандыдат у ВКП (б), малодшы палітрук, жыхар Чэлябінскай вобласці. У атрад быў прыняты ў чэрвені 1942-га, дзе яго прызначылі палітруком роты...


Фота забяспечана Аляксандрам ПЛАВІНСКІМ.

Мікалай Кісялёў. Здымак 1970-х гадоў.

Кіраўнікі партызанскіх атрадаў адмоўна ставіліся да яўрэяў як да партызанаў. Лічылася, што яны занадта баязлівыя і не могуць быць актыўнымі ў баявых дзеяннях. У гэтым была ладная доля праўды. Бо галоўны інтарэс яўрэяў у партызанскім руху складаўся ў тым, каб выбрацца з гета, выратавацца. У той жа час негатыўнае стаўленне камандавання партызан да яўрэяў было выключна суб'ектыўным: на гэты конт існавала і дырэктыўнае ўказанне. Сучасныя даследчыкі на ім звычайна не акцэнтуюць увагу.

З першых дзён акупацыі ва ўмовах складанай франтавой абстаноўкі органы НКВД і НКГБ рэспублікі, аб'яднаныя 3 жніўня 1941 года ў адзіны наркамат унутраных спраў, і ГРУ ГШ прыступілі да арганізацыі партызанскіх атрадаў і груп, засылалі іх у тыл праціўніка. Такім чынам у склад камандавання многіх партызанскіх атрадаў ўваходзілі кадравыя афіцэры НКВД.

У мэтах паляпшэння кадравага адбору кандыдатаў, якія паступаюць у органы НКВД, ужывалася інструкцыя "Аб асноўных крытэрах пры адборы кадраў для праходжання службы ў органах НКВД СССР", уведзеная ў дзеянне загадам Народнага камісара ўнутраных спраў СССР ад 21 снежня 1938 г. №00310, якая мела грыф "цалкам сакрэтна". У пункце 7 гэтай інструкцыі паказвалася, што неабходна "асаблівую ўвагу звяртаць на нацыянальнае паходжанне кандыдата. Вельмі небяспечнымі ў сацыяльным плане па сваёй псіхагенетычнай сутнасці з'яўляюцца людзі, якія паходзілі ад змешаных шлюбаў. Для кадравага адбору НКВД важна адсякаць, у асноўным, асоб, у якіх прысутнічае яўрэйская кроў. Аж да пятага калена неабходна цікавіцца нацыянальнай прыналежнасцю блізкіх сваякоў. Ці былі ў родзе яўрэі. Усе астатнія міжрасавыя шлюбы варта лічыць пазітыўнымі".

**Аляксандр ПЛАВІНСКІ.**

**Працяг будзе.**

● КАЛЯНДАР

## 17 ЧЭРВЕНЯ



**90 гадоў** з дня нараджэння Мікалая Яроменкі (1926 – 2000), акцёра, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР.

**1696 год.** Памёр кароль Рэчы Паспалітай і вялікі князь літоўскі Ян III Сабескі.

## 18 ЧЭРВЕНЯ

**105 гадоў** з дня нараджэння Аляксандра Шыдлоўскага (1911 – 2002), дзеяча самадзейнага мастацтва, педагога, кампазітара, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Нарадзіўся ў вёсцы Мінкі, цяпер Смаргонскі раён).

## 19 ЧЭРВЕНЯ

**Дзень медыцынскага работніка.**

## 20 ЧЭРВЕНЯ

**50 гадоў** з дня заснавання Маладзечанскага тэхнічнага вучылішча радыётэхнікі.

**1566 год.** Нарадзіўся Жыгімонт III Ваза (г. Грыпсхольм, Швецыя), вялікі князь літоўскі і кароль польскі (1587-1632 гг.).

## 21 ЧЭРВЕНЯ

**275 гадоў** з дня нараджэння Жана Эмануэля Жылібера (1741 – 1814), французскага і беларускага натураліста, хірурга, анатама, заснавальніка каралеўскай медыцынскай акадэміі ў Гродне.

## 22 ЧЭРВЕНЯ

**75 гадоў** з пачатку (1941) Вялікай Айчыннай вайны 1941 – 1945 гг.

**Дзень усенароднай памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны.**

**75 гадоў** з пачатку гераічнай абароны (1941) Брэсцкай крэпасці (працягвалася да канца ліпеня 1941 г.).

СЁЛЕТА

**515 гадоў** назад (1501) упершыню ў гістарычных крыніцах згадваецца Ганута Вілейскага раёна – уладанне князёў Гальшанскіх.

**245 гадоў** назад (1771) у Латыгалі на Вілейшчыне пабудаваная царква Мікалая Цудатворца. З'яўляецца помнікам драўлянай архітэктуры з элементамі барока.

**240 гадоў** назад у вёсцы Багданаў Вілейскага павета нарадзіўся Казімір Контрым (1776 – 11.6.1836), вядомы публіцыст, вучоны-эканаміст і грамадскі дзеяч. Удзельнічаў у паўстанні 1794 года. Меў псеўданім Пятро з-пад Крэва.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# На фестываль упершыню пр
# пра Уладзім




Вядучымі на закрыцці фестывалю былі Алег Ціткоў і Марына Грыцук.

МАЛАДЗЕЧНА

**Выставай, прымеркаванай да 75-годдзя Уладзіміра Мулявіна, распачаўся 16-ы Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі.**

У фае Палаца культуры адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы рэдкіх фотаздымкаў аўтарства **Юрыя Іванова** і асабістых рэчаў Уладзіміра Мулявіна.

Гледачы маглі пабачыць залаты дыск, які атрымалі "Песняры" ў 1982 годзе, кубак Мулявіна, яго сцэнічны трыкатажны касцюм, пашыты па спецзаказе, кнігі, ноты, запісаныя яго ўласнай рукой.

На адкрыццё выставы завіталі вядомыя дзеячы культуры Беларусі: кампазітар **Ігар Лучанок**, паэт **Алесь Бадак**, кампазітар **Эдуард Зарыцкі** і іншыя.

Жонка Уладзіміра Мулявіна **Святлана Пенкіна** расказала пра тое, што раней выстава ніколі не пакідала сцэнаў Беларускай філармоніі, але для маладзечанцаў упершыню зрабілі выключэнне.

– Такім выключэннем быў і сам Уладзімір Мулявін. Не маючы вышэйшай музычнай адукацыі, ён стварыў "Песняроў" і стаў іх кіраўніком.

Выстава, падкрэсліла Святлана Пенкіна, мае назву "Я заўжды з вамі".

– Тут, на выставе, ва ўсіх рэчах жыве дух Уладзіміра Мулявіна. Так што ён сапраўды з намі. І ў сваім жыцці

**Уладзімір Мулявін кланяўся толькі ў двух выпадках: у царкве, бо апошнім часам Уладзімір прыйшоў да рэлігіі, і на канцэртах, сваім гледачам.**

Аснову экспазіцыі выставы занялі фотаздымкі **Юрыя Іванова**, зробленыя ім у розныя моманты яго сяброўства з "Песнярамі".

– Я працаваў над кнігай пра горад Мсціслаў, – расказвае Юры Іваноў. – І мне трэба было зрабіць фатаграфіі на мясцовым конезаводзе, там абяцалі запрэгчы тройку коней. Папрасіў Мулявіна прыехаць туды з "Песнярамі". Але перад паездкай я патэлефанаваў яму, Валодзя сказаў, што ім прапанавалі выступіць у Адэсе за вялікі ганарар. Я не памятаю, што сказаў, але даў зразумець, што мне гэта не падабаецца. І раптам Валодзя звяртаецца да свайго дырэктара: тэлеграфуйце ў Адэсу, скажыце, што ўсе "Песняры" захварэлі. І здымкі ў Мсціславе ўсё ж адбыліся.

Яшчэ адна гісторыя датычылася фотаздымка на машыне БЕЛАЗ.

– Здымалі на майскія святы ў 1986 годзе. А перад гэтым здарылася аварыя ў Чарнобылі. Таму настрой у тых, хто на фотаздымку, адпаведны.

А пра фотаздымак, дзе Уладзімір стаіць на сцэне, Юры Іваноў узгадвае з усмешкай:

– Памятаю, заходжу на рэпетыцыю. Вялізная зала. Людзей няма, ідзе рэпетыцыя. І тут Мулявін у мікрафон на ўсю залу: "О, Іваноў прыйшоў!"

**Людміла Крушынская**, аўтар кнігі пра Уладзіміра Мулявіна "Сэрцам, і думамі", якая таксама прысутнічала на мерапрыемстве, перадала ў музей рукапісы, напрацоўкі да кнігі.

Яна таксама сказала, што Уладзімір Мулявін заўсёды і сэрцам, і думамі быў побач са сваім гледачом.

Увечары ж адкрыццё фестывалю было цалкам прысвечанае Уладзіміру Мулявіну. Вядомыя беларускія артысты выканалі ўсімі любімыя "Чырвоную ружу", "Касіў Ясь канюшыну", іншыя. Напрыканцы свята ўключылі запіс песні "Малітва" ў выкананні самога песняра. Уся зала амфітэатра слухала песню стоячы.

У конкурсе маладых выканаўцаў эстраднай песні перамог **Аляксандр Саванец** са Слоніма. Ён атрымаў прыз імя Уладзіміра Мулявіна.

**Наталля ТУР.**

**Фота Наталлі ТУР і Зоі ХРУЦКАЙ.**

**Больш фота з фестывалю глядзіце на сайце Rh.by**

# ывезлі экспанаты выставы іра Мулявіна



На канцэрт прыходзілі цэлымі кампаніямі.



Гледачы на закрыццё фестывалю прыйшлі з пледамі. І не пашкадавалі пра гэта.



Салісты аркестра Галіна Грамовіч, Дзмітры Качароўскі і Валерыя Грыбусава.



Удава Мулявіна Святлана Пенкіна з Людмілай Крушынскай, аўтарам кнігі "Уладзімір Мулявін. Сэрцам і думамі".



Фатограф Юры Іваноў ля фотаздымка, які быў зроблены 30 гадоў таму.

НАВІНЫ

## Барацьбу за Кубак працягне "Смаргонь"

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, МАЛАДЗЕЧНА

Матчы 1/32 фіналу Кубка Беларусі прайшлі 11 чэрвеня. Апроч "Маладзечна-ДЮСШ-4", у гэтай стадыі гулялі яшчэ тры каманды з рэгіёна.

Далей прайшла толькі "Смаргонь", якая ў гасцях перамагла "Вікторыю" з Мар'інай Горкі 5:0. "Забудова-Буд" з Чысці дома прайграла "Лідзе" 0:1. "Ашмяны" ў гасцях саступілі "Нёману-Агра" з лікам 1:2.

У 1/16 фіналу "Смаргонь" згуляе з мікашэвіцкім "Гранітам". Матчы гэтай стадыі намечаны на 8-10 ліпеня.

## "Вілія" з Вілейкі саступіла лідару

ВІЛЕЙКА

Зноў у гасцях "Вілія" з Вілейкі атрымала буйное паражэнне. У пятым туры чэмпіянату Мінскай вобласці 12 чэрвеня "Вілія" ў Салігорску гуляла з лідарам – "Хімікам-Беларуськаліем".

Да гэтага матча гаспадары не прапусцілі ніводнага гола. Не далі забіць і віляйчанам. Матч скончыўся з лікам 4:0 на карысць каманды "Хімік-Беларуськалій".

– Каманда сапернікаў моцная, валодала ініцыятывай і мела шмат момантаў, – кажа гулец "Віліі" **Віктар Сяліцкі**. – У нас былі тры галявыя моманты, і то ў першым тайме.

Гаспадары адкрылі лік ў канцы першага тайма. Другі гол забілі ў сярэдзіне другога тайма. Апошнія два мячы ўляцелі ў вароты віляйчан на апошніх хвілінах матча.

"Вілія" апусцілася ў турнірнай табліцы на пятае месца. У активе каманды – сем ачкоў.

Наступны матч "Вілія" 19 чэрвеня правядзе дома супраць "Зоркі-Вікторыі". Пачатак – а 14 гадзіне.

## Турнір у Вілейцы пераваліў за экватар

ВІЛЕЙКА

Пяты тур традыцыйнага турніру па мініфутболе ў Вілейцы адбыўся 12 чэрвеня.

Пасля яго ў лідарах "Зеніт", які пасля пяці гульняў мае 15 ачкоў. Таксама без страт ачкоў ідзе "Мехатроніка". Але яна правяла на гульню менш і мае 12 ачкоў.

Турнір мяркуюць завяршыць у сярэдзіне ліпеня, расказаў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

## На Нарачы будуць лавіць рыбу і адпускаць

МЯДЗЕЛ

Ад 15 да 19 чэрвеня на возеры Нарач праходзіць другі этап восьмага чэмпіянату Беларусі па спартыўнай лоўлі рыбы спінінгам з лодак. Першыя тры дні адбываюцца афіцыйныя трэніроўкі, а ў суботу і нядзелю пройдуць два туры спаборніцтваў.

У нарачанскім этапе зарэгістраваныя больш за дзесяць камандаў з розных рэгіёнаў Беларусі, расказаў спецыяліст аддзела турызму Нацыянальнага парку "Нарачанскі" **Анатоль Углянец.**

Арганізуе спаборніцтвы Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў сумесна з ГА "БРІК". Судзейскі лагер размесціцца ля аўтакемпінгу Нацыянальнага парку "Нарачанскі".

Згодна з палажэннем, лоўля рыбы пройдзе па прынцыпе "злавіў-адпусціў". У залік прымуць толькі буйны ўлоў. Напрыклад, для шчупака мінімальная даўжыня 45 сантыметраў, для акуня – 21.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## "Маладзечна-ДЮСШ-4" саступае "Гомелю" – 0:2

МАЛАДЗЕЧНА

У суботу, 11 чэрвеня, каманда "Маладзечна ДЮСШ-4" прымала на стадыёне гасцей з Гомеля ў межах 1/32 Кубка Беларусі па футболе.

Абодва мячы гамяльчане забілі ў першым перыядзе. Першы гол трапіў у сетку варот маладзечанцаў на 10 хвіліне матча.

Заўзятары, што прысутнічалі на гульні, адзначалі, што гульня ў абедзвюх камандах роўная, маладзечанцы ў майстэрстве ні ў чым не саступалі.

Крыўдным і недарэчным быў мяч, забіты ў вароты падначаленых **Аляксандра Гармазы** на 33 хвіліне.

Абодва мячы забіў гулец "Гомеля" **Ягор Траякоў**.

Прыкметна, што на поле гульцы выйшлі ў старой форме, памятаючы пра тое, што ў ёй перамагалі ў гэтым сезоне. Аднак забабоны не апраўдалі сябе. Маладзечанцы закончылі барацьбу за Кубак Беларусі.

**Наталля ТУР.**

**Анансаваны артыкул пра саліста "Песняроў" Артура Міхайлава, які за месяц схуднеў з 98 да 84 кілаграмаў, чытайце праз тыдзень.**

# Жарсці па Мікалаю Рындзюку

СМАРГОНЬ

**Галоўны трэнер футбольнага клуба "Смаргонь" Мікалай Рындзюк на мінулым тыдні штораз трапляў у цэнтр увагі спартыўных журналістаў.**




Фота offside.by.

Мікалай Рындзюк на гэтым тыдні апынуўся ў цэнтры ўвагі спартыўных журналістаў.

Вечарам 8 чэрвеня "Прессбол" і іншыя спартыўныя выданні паведамілі, што Мікалая Рындзюка і суддзю **Андрэя Сароку** затрымалі праваахоўныя органы. І што з аўторка трэніроўкі ў "Смаргоні" праводзяць асістэнты галоўнага трэнера. Пазней дадалі, што Андрэя Сароку адпусцілі на волю.

Яшчэ з'явілася інфармацыя, што 7 чэрвеня па падазрэнні ў атрыманні хабару затрымалі кіраўніка дэпартамента судзейства і інспектавання Беларускай федэрацыі футбола **Андрэя Жукава**.

Але ў чацвер Мікалай Рындзюк з'явіўся на працы. Прэс-служба "Смаргоні" паведаміла: "3 чэрвеня галоўны трэнер Мікалай Рындзюк напісаў заяву, каб яму далі два дні (7 і 8 чэрвеня) у сувязі з сямейнымі абставінамі. Без яго кіраваў трэніровачным працэсам начальнік каманды старшы трэнер **Аляксей Дварэцкі**. Мікалай Рындзюк павінны быў з'явіцца на працы ў чацвер, 9 чэрвеня, што і зрабіў". Змясціла фотаздымкі з трэніроўкі. І дадала: "Не маем інфармацыі аб затрыманні галоўнага трэнера праваахоўнымі органамі, якая распаўсюджваецца інтэрнэт-рэсурсамі". Таксама прэс-служба аспрэчыла размовы аб дагаворным характары матча супраць ФК "Орша":

"Ніхто не перашкаджаў футбалістам "Оршы" забіваць мінімум два мячы ў пачатку матча і яшчэ некалькі на ходу гульні... Галоўны трэнер гасцей **Юры Канаплёў** сам выказаў у інтэрв'ю інтэрнэт-парталу by.tribuna.com, што ў прапушчаных галах вінаваты самі гульцы і пацвердзіў, што аршанцы мелі некалькі магчымасцяў для ўзяцця варот. Аднак ён не выказвае прэтэнзій да галоўнага арбітра, што той перашкаджаў яго гульцам увасобіць гэтыя моманты ў забітыя галы. Тады аб якім дагаворным матчы можа ісці размова?"

А калі ў матчы 1/32 фіналу Кубка Беларусі "Смаргонь" разграміла "Вікторыю" з Мар'інай Горкі 5:0, то і тут не абышлося без прамога ўдзелу галоўнага трэнера. Ён выйшаў на замену на 81-й хвіліне і паспеў забіць два галы.

**Паводле pressball.by і прэс-службы ФК "Смаргонь".**

## Прадстаўнікі Вілейшчыны сталі лепшымі ракетамадэлістамі

ВІЛЕЙКА

**Ад 2 да 4 чэрвеня ў Барысаве праходзілі абласныя спаборніцтвы па ракета- і авіямадэльным спорце. У іх прынялі ўдзел каманды з Маладзечна, Барысава, Слуцка, Жодзіна і Вілейкі.**



Фота забяспечана Анатолем ПРЫЦАМ.

Каманда ракетамадэлістаў Вілейшчыны.

Спартсмены спаборнічалі ў запуску мадэляў пяці класаў. Тут можна было ўбачыць мадэлі ракет са стужкай, з парашутам, ракетапланы, раташтуы і мадэлі-копіі.

Да канструкцыі выстаўляюцца жорсткія патрабаванні і абмежаванні: даўжыня, дыяметр, вышыня палёту і нават шчыльнасць ракеты не павінны перавышаць прынятыя стандарты.

Абсалютна ўсё робіцца сваімі рукамі. Бярэцца нарыхтоўка, дрэва, папера і ў выніку атрымоўваецца лятаючая мадэль. Яна патрабуе пэўных трэніровачных запускаў, якія адладжваюць яксаць яе палёту.

Як і ў любым прафесійным спорце, у ракетамадэляванні існуюць жорсткія патрабаванні і абмежаванні: даўжыня, дыяметр, вышыня палёту і нават шчыльнасць ракеты не павінны перавышаць прынятыя стандарты.

Каманда ракетамадэлістаў Вілейскага раёна заняла першае месца і стала ўладальнікам кубка. За каманду выступалі вучні Нароцкай сярэдняй школы, якія займаюцца ў гуртку "Ракетамадэляванне" Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі (педагог **Уладзімір Шапель**). У асабовым заліку ў розных класах мадэляў два першыя месцы ў **Аляксандра Міклуша.** Другія месцы на рахунку **Аляксандра Шышко**, **Кірыла Мягкова**, **Уладзіслава Вераб'я**. Трэцяе месца заняў **Арцём Варановіч.**

Каманда авіямадэлістаў Вілейшчыны заняла трэцяе месца. У асабовым заліку ў класе мадэляў F-3-J навучэнец гуртка "Авіямадэляванне" **Клім Севярын** стаў трэцім. За наш раён таксама выступалі юныя авіямадэлісты: **Іван Карзюк, Павел Сарока, Аляксей Усаценка.**

**Анатоль ПРЫЦ, метадыст цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.**




## Клубніцы: палячыце і парадуйце свой арганізм

Якраз цяпер сезон на іх. Таму не прапусціце такую магчымасць і палячыць, і парадаваць свой арганізм. Якіх толькі вітамінаў і мінералаў няма ў іх!

Клубніцы ачышчаюць арганізм, а дзякуючы ўтрыманню антыаксідантаў замаруджваецца працэс старэння. Клубніцы здольныя "перамагчы" ўзбуджальнікаў розных кішачных інфекцый. Старажытныя рымляне выкарыстоўвалі сок і мякаць пладоў для свежасці дыхання і адбельвання зубоў. Французская рэвалюцыянерка мадам Тальен, якая стала прыбліжанай Напалеона, прымала ванны з пюрэ клубніц, лічачы, што тым самым прадаўжае сваю маладосць.

Адзіны недахоп гэтых ягадаў у тым, што яны моцны алерген.

І не забывайце пра касметычны эфект: вазьміце спелую ягадку ды і намажце ёй твар на хвілін 15. Пасля змыйце цёплай вадой.

### Клубнічны дэсерт

*На адну порцыю спатрэбіцца 50 г свежых спелых ягад, 40 г вяршкоў, 10 г цукровай пудры, ванільны цукар.*

Добра прамыйце ягады, прасушыце, Калі ёсць час, то хай яны высахнуць самі. Калі спяшаецеся, то прамакніце іх сурвэткай.

У міксеры ўзбіце пярэдне ахалоджаныя вяршкі. Калі іх аб'ём павялічыцца ў два разы, дадайце цукровую пудру і ваніль. Усю гэту смакату выкладзіце ў крэманкі. Спачатку клубніцы, а зверху вяршкі. Каб яны раўнамерна размеркаваліся на ягадах, скарыстайцеся кулінарным мяшэчкам.

### Клубнічны карамболь

*300 г клубніц, 3 сталовыя лыжкі карычневага цукру, 1 чайная лыжка крухмалу. Для прысыпкі: 30 г грэцкіх арэхаў, 30 г аўсяных шматкоў, 20 г мукі, 20 г масла і 20 г карычневага цукру.*

Клубніцы памыйце, высушыце і парэжце ўздоўж на некалькі частак. Выкладзіце іх у загадзя падрыхтаваную міску. Пасыпце іх карычневым цукрам, пасля крухмалам. Усё перамяшайце. І раскладзіце ягады ў гарачатрывалыя формачкі.

Арэхі, шматкі, муку, масла і цукар здрабніце, каб атрымалася буйная крошка. Прысыпце кожную порцыю клубніц у формачках гэтым самым цестам. Можна трохі прыцісну́ць лыжкай. І стаўце клубніцы ў разагрэтую да 200 градусаў духоўку прыкладна на 25 хвілін. Есці гэту страву лепш гарачай.

**Проста МАРЫЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 6 | | 9 | | | | 4 | |
| | 1 | | | | 2 | 7 | | 6 |
| | | 8 | 4 | | | | | |
| | | 4 | | | 7 | | | 5 |
| 8 | | | | | | | | 7 |
| 9 | | | 6 | | | 1 | | |
| | | | | | 3 | 6 | | |
| 3 | | 1 | 7 | | | | 8 | |
| | 4 | | | | 9 | | 1 | 3 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● АФІША



Фота youtube.com.

Кадр з фільма "Аднакласніцы".

# Як знайсці жаніха за адну ноч

КІНО МАЛАДЗЕЧНА

Для жанчын, расчараваных у каханні, кінатэатр "Радзіма" прапануе расійскую камедыю **"Аднакласніцы"**.

Кампанія сябровак адпраўляецца ў Сочы выдаваць адну з іх замуж. На жаль, жаніх здрадзіў дзяўчыне проста ў ноч перад урачыстасцю.

Але гэта не перакрэсліла планы нявесты выйсці заўтра замуж. І ў сябровак ёсць толькі адна ноч, каб знайсці новага жаніха.

Калі вас цікавяць больш дарослыя сем'і, то такую карціну вы ўбачыце ў іншай расійскай камедыі – **"Снядання у таты"**. 10-гадовая дзяўчынка знаходзіць свайго тату, які зусім не рады сустрэчы.

Але персанажы адзін за другім разумеюць, што сям'я – гэта не месца прапіскі і не колькасць гадзін, якія вы праводзіце разам. Гэта сувязь, якую не знішчыць ні час, ні адлегласць.

Паказытаць нервы можна пад жахі **"Закляцця"**, а дынамічную карцінку вы ўбачыце ў баявіку **"Дзень незалежнасці: Адраджэнне"**.

КІНО ВІЛЕЙКІ

Наведнікам кінатэатра "Мір" варта звярнуць увагу на супергеройскую гісторыю **"Чарапашкі-ніндзя 2"** ці фільм, які скідае покрыва з магіі – **"Ілюзія падману: Другі акт"**.

**Аддзел інфармацыі.**

Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары" на нашым сайце





**Выпрабавана на сабе: як я працавала ваўчыхай**

Хахах! Знаёма! Сам неяк падрадзіўся выступаць на свяце (Гуканне вясны, ці што) у беларускіх ляльках Мужык (я) і яго Жонка (мой сябар). Не памятаю, колькі гэта цягнулася па часе, але праз пот тады шмат вагі выйшла. І рэальна там нічога не відаць, і кожны хоча фота, і ўшчыпнуць, а хто і трэснуць. Самае экстрэмальнае было – гэта танцы. Асабліва полька з самымі маленькімі ўдзельнікамі. А Наташка малайчына, вытрымала аж 45 хвілін! ***Sh@m@n.***

**Неверагодна халоднае закрыццё фестывалю "Маладзечна-2016" (Фота)**

Суворае лета – 2016, аднак... Але ж мы выстаялі... седзячы. ***Эва.***

**Дзевяць туманных дзён у Валожыне, 19 дзён з навальніцамі ў Радашкавічах – цікавыя факты пра надвор'е ў чэрвені**

Зноў сіноптыкі падманулі з надвор'ем. Абяцалі, што чэрвень будзе цяплейшы за норму на 1-2 градусы. ***Nifeus.***

**"Амаль тыдзень вада жудасная" – віляйчанка скардзіцца на стан вады з водаправода (Фота)**

Самае страшнае тое, што ніхто не збіраецца ўхіліць гэту праблему. У водаканале ўжо нават на тэлефонныя званкі не адказваюць. ***Святлана.***

## Віляйчан запрашаюць паказаць дзіцячую рэтра-тэхніку

ВІЛЕЙКА

**У Вілейцы 2 ліпеня пройдзе выстава-парад дзіцячай рэтра-тэхнікі. Адбудзецца яна а 16 гадзіне на цэнтральнай плошчы ў межах святочных мерапрыемстваў.**

Жыхарам Вілейшчыны прапануюць паўдзельнічаць з трохколавымі роварамі, самакатамі, машынкамі на педалях і іншай падобнай тэхнікай.

Арганізатарамі сталі аддзелы ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама, адукацыі, спорту і турызму райвыканкама і тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. У апошнюю ўстанову да 25 чэрвеня можна падаць заяўкі на ўдзел. Зрабіць гэта можна па адрасе: Вілейка, вуліца Партызанская, 44, кабінет №3, па нумарах тэлефонаў: **8-01771-2-18-33, 2-26-28**, ці па электроннай пошце GU-VTCSON@mail.ru з паметкай "Парад дзіцячай рэтра-тэхнікі".

– Людзі ўжо тэлефануюць, распытваюць, як будзе праходзіць выстава-парад. Вядома, што не ў кожнага захаваліся рэчы 30-40-гадовай даўніны, але, думаю, маладому пакаленню будзе іх цікава пабачыць, – расказала загадчыца аддзялення першаснага прыёму, інфармацыі, аналізу і прагназавання ТЦСАН **Іна Шохціна**.

**Аддзел інфармацыі.**

● ГАРАСКОП
17-23 ЧЭРВЕНЯ



**Авен.** У вашай галаве шмат ідэй і планаў. Ваша задача – рэалізаваць іх. Максімум намаганняў і напорыстасці.



**Цялец.** Перыяд як найлепш падыходзіць для завяршэння раней пачатых спраў. Яны запатрабуюць ад вас уседлівасці, а таксама цярпення, бо вынікі сваёй дзейнасці вы ўбачыце не адразу.



**Блізняты.** Вас чакаюць перамены. Будзьце шчырыя, ніякіх масак і прытворства.



**Рак.** Вам прыйдзецца вытрымаць не адно выпрабаванне і да канца наступнага тыдня сур'ёзна стоміцеся. Але намаганні будуць ўзнагароджаныя атрыманнем доўгачаканага выніку, спаўненнем вашых жаданняў.



**Леў.** Наступае паласа, калі старое і звыклае паступова пачынае адміраць, каб вызваліць месца новаму. Не спрабуйце захаваць сваё становішча і ўтрымацца за старое. Вам трэба глядзець наперад, складаць планы на будучае і прыцягваць у сваё жыццё станоўчае новае.



**Дзева.** Паклапаціцеся пра свой фінансавы стан. Адмоўцеся ад лішніх трат. І будзьце ўважлівыя і асцярожныя, а то хтосьці хоча пажывіцца за ваш кошт.



**Шалі.** Усе дні вам будуць з'яўляцца знакі, якія падкажуць правільны шлях, якія рашэнні прыняць – вам толькі неабходна прыслухацца да іх, да сваёй інтуіцыі. А так як вы ўпёртыя ў сваіх поглядах на свет, усімі сіламі адстойваеце сваю пазіцыю і праяўляеце незадаволенасць лёсам і навакольнымі, то падзеі могуць развівацца зусім не на вашу карысць. Будзьце ўважлівыя.



**Скарпіён.** Перыяд самы лепшы за прайшоўшы час. Вам будзе чым ганарыцца і што паказаць свету.



**Стралец.** На вас навалілася так шмат работы, што вы проста ў шоку. Калі шмат працуеце, то трэба і адпачыць з карысцю. Выберыце якія выхадныя і рабіце толькі тое, што вам хочацца.



**Казярог.** Адмоўцеся ад непрыстойных учынкаў адразу, каб потым не шкадаваць аб гэтым.



**Вадалей.** Спрыяльны перыяд ва ўсіх пытаннях. Вы поўныя эмоцый і пачуццяў і адначасова вельмі актыўныя, што дазволіць заводзіць новыя знаёмствы і эфектыўна дзейнічаць у любой сітуацыі.



**Рыбы.** Апынуўшыся ў спрэчнай сітуацыі, прыслухоўвайцеся да голасу сумлення, да парадаў душы.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

18 чэрвеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +16 / +27 | | +19 / +24 | | +16 / +24 | | +16 / +24 | |
| | 735 | ↑ 9 | 740 | → 4 | 745 | → 2 | 746 | ← 6 |
| Вільня | +15 / +26 | | +15 / +22 | | +14 / +22 | | +14 / +24 | |
| | 740 | ↑ 8 | 747 | ↗ 6 | 754 | → 3 | 754 | ← 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.37
Захад 21.50
Даўжыня дня 17.13

Усход 19.28
Захад 3.50
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +4,9 °С у 1994 годзе
Максімальная тэмпература +29,6 °С у 1991 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 16,3 мм у 1991 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Ці ехаць у Мадрыд і Барселону адпачываць з дзецьмі? Колькі трэба ўзяць з сабой? Што варта наведаць у гэтых гарадах? Здзейснім у наступным нумары завочнае падарожжа ў далёкую Іспанію з маладзечанкай Ірынай Сяліцкай.



## Фотафакт: каля дзіцячай мастацкай школы з'явілася страказа з запчастак ад матацыкла

МАЛАДЗЕЧНА

Вочы яе зроблены з фар, лапкі – з дроту, тулава – з глушыцеля. Усе дэталі ўзятыя ад матацыкла.

Зрабілі гэты арт-аб ект вучні пятага класа: **Яўген Казлоўскі**, **Стэфан Бабін** пад кіраўніцтвам настаўніка **Сяргея Рабчыка**.

– У мастацкай школе ў красавіку праходзіў арт-тыдзень, – расказвае дырэктар дзіцячай мастацкай школы **Наталля Трус**. – Усе вучні прапаноўвалі свае праекты, пасля рэалізоўвалі іх. Усяго было каля 20 работ. Сярод прапанаваных была і страказа.

Наталля Трус заўважае, што напачатку вучні разам з настаўнікам шукалі дэталі, пасля збіралі іх у адну кампазіцыю. Адным з самых складаных працэсаў – зваркай элементаў – займаўся настаўнік.

**Галіна СІНІЦА.**

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧАНШЧЫНЫ



На ўганараванні медалістаў у амфітэатры 9 чэрвеня. Выпускніца гімназіі №10 Ксенія Гулевіч.

Фота Наталлі ТУР.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## На якую дабрачынную справу вы гатовыя ахвяраваць?



**Ірына Крупская, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Гатовая ахвяраваць сродкі хворым дзецям і сіротам, пажылым людзям. Мне шкада дзетак, якія хварэюць і якія засталіся без бацькоў. А пажылым – таму што некаторым няма каму дапамагчы, з-за праблем са здароўем многія не могуць пра сябе клапаціцца.



**Дар'я Галумбеўская, харэограф, Вілейка:**

– Згодная ахвяраваць на дапамогу ці пабудову прытулку для бяздомных жывёл. Мы павінны адказваць і клапаціцца пра сваіх жывёл, а не заводзіць іх, крыху пагуляцца і выкінуць. Людзі сталі чэрствыя і абыякавыя! Я выратавала і забрала дадому чатыры жывёліны.



**Алена Яцына, старшы аператар газеты, Мядзел:**

– Магла б ахвяраваць на дабрачыннасць, звязаную з хворымі дзецьмі, пажылымі і адзінокімі людзьмі, пра якіх няма каму клапаціцца.



**Аляксандр Навумчык, прэс-аташэ ФК "Ашмяны":**

– Ахвяраваў бы грошы на развіццё і ўцягванне ў спорт дзяцей-сірот, бо на самой справе важна быць нечым захопленым, а такім хлопцам патрэбная падтрымка. Любы від спорту аб'ядноўвае, а, як вядома, цяжкасці вырашаць лепш разам.



**Надзея Станкевіч, загадчыца аддзела Палаца культуры, Маладзечна:**

– Гатовая ахвяраваць хворым дзецям, у школы-інтэрнаты і дамы сірот Няхай і гэтыя дзеткі, атрымаўшы падарунак ці дапамогу, змогуць адчуць крышачку любові і зразумець, што за іх хвалююцца і яны патрэбныя нашай краіне.



**Юры Яравіцын, пенсіянер, Мядзел:**

– Мог бы ахвяраваць на дапамогу дзецям-сіротам. А таксама – на развіццё сістэмы аховы здароўя.



**Арцём Тарасевіч, студэнт гістфаку БДУ, нарадзіўся ў Ашмянах:**

– Па-першае, на якасную рэканструкцыю/рэстаўрацыю храмаў, замкаў, іншых гістарычных пабудоў і магілак. Па-другое – на ўсталяванне помнікаў гістарычным персанажам і знакавым падзеям. Па-трэцяе – на рэстытуцыю важных кніг, архіўных дакументаў і музейных прадметаў, якія цяпер знаходзяцца ў суседніх краінах. Яны б значна абагацілі нашы музеі.

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№25 (1103) 17.06.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 578. Падпісана ў друк у 9.00 16.06.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.